***Ніводнае затрыманне, ніводны прысуд, вынесены рэжымам, не з’яўляюцца справядлівымі. Справядлівы толькі наш культурны супраціў. А нашыя словы, нашая музыка, нашае мастацтва – пачатак справядлівага суда над сапраўднымі злачынцамі.***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце**
**кампанію Save Our Songs**
**і Беларускі фонд культурнай салідарнасці**

# 1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД




**Юрыя Лакціёнава,** музыку з Гародні, вакаліста гурта Pet Nihil, абвінавачваюць па артыкуле 22.9 адміністрацыйнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі) за знойдзеныя ў багажніку аўтамабіля газеты «Гродненское время».

**Віктару Царыкевічу** пагражае пазбаўленне волі за правядзенне серыі акцый у верасні-кастрычніку 2020: размалёўванне прыпынкаў у Мастоўскім раёне, нанясенне на дрэвы БЧБ-сцягоў, развешванне на іх пудзілаў у міліцэйскай форме і размяшчэнне таблічак у выглядзе рытуальных надмагілляў, а таксама труны з пудзілам у форме супрацоўніка міліцыі.





23 студзеня падчас ланцугоў салідарнасці ў Мінску затрыманыя **Леся Пчолка (Алеся Найдовіч)** – заснавальніца дабрачыннай крамы KaliLaska, фатографка, мастачка, менеджарка культурніцкіх праектаў, арт-дырэктарка Незалежнай культурнай супольнасці VEHA (атрымала штраф 25 базавых велічынь [725 рублёў]), і **Уладзімір Грамовіч** – мастак (атрымаў 15 сутак).





Вечарам 23 студзеня на Нямізе затрымалі **вулічных музыкаў**, якія выконвалі песню «Перемен».



**Рыта Новікава, фатографка,** **была затрыманая 24 студзеня ў Мінску, падчас акцыі «Ежа замест бомбаў», актывісты і актывісткі якой раздаюць ежу бяздомным людзям.**



**Былую кіраўніцу аддзела культуры Магілёўскага гарвыканкама Ірыну Жаббараву судзяць па справе за хабарніцтва. Ірына не прызнае віну і заяўляе, што супрацоўнікі КДБ прапаноўвалі ёй шпіёніць за дзейнасцю амерыканскай амбасады і людзей, якія прысутнічаюць на закрытых мерапрыемствах, а таксама за сваім кіраўніцтвам — мэрам і яго атачэннем.**







**Ігнат Сідорчык, паэт, рэжысёр, актор, з 10 жніўня 2020 знаходзіцца за кратамі. Яму высунутыя абвінавачванні па ч. 1 арт. 342 (арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх). Ігнат не ўдзельнічаў у пратэстах, вечарам 10 жніўня ён выйшаў па цыгарэты, а па дарозе дадому (ён жыве ў цэнтры) яго затрымалі, палічыўшы арганізатарам чата для сяброў пад назвай «Прагулка».**



**Сяргей Спарыш, палітвязень, актывіст «Народнай грамады», кампазітар. Знаходзіцца ў зняволенні з 25 чэрвеня 2020, крымінальная справа па ч. 1 арт. 342.**



# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ




Выдавецтва «Янушкевіч», у якое 15 студзеня наведаліся супрацоўнікі ДФР, не можа выдаваць новыя кнігі, таму што ў іх забралі тэхніку і заблакавалі рахункі. Такая ж сітуацыя склалася ў выдаўца Генадзя Вінярскага (выдавецтва «Кнігазбор»), да якога праверка прыходзіла 14 студзеня.




Да Юрыя Казакевіча, уладальніка крамы з нацыянальнай сімволікай «Росквіт» у Баранавічах, прыйшлі супрацоўнікі ДФР – правяраць інфармацыю аб нявыплаце падаткаў.Ператрусы прайшлі ў краме, дома і ў машыне, дома канфіскавалі кампутар і тэлефон.





Песні гурта Naviband забараняюць выконваць на разнастайных конкурсах у Беларусі.

У Навагрудку ўдзельнікаў экскурсіі, прысвечанай Беларускай гімназіі і Барысу Кіту, суправаджалі міліцыянты – нядзельныя экскурсіі ўжо не першы раз адбываюцца «пад канвоем». Удзельнікі экскурсіі выказалі салідарнасьць з асуджанымі гараджанамі і жыхарамі ўсёй Беларусі зоркамі з лічбамі «23.34» (артыкул КаАП, па якім судзяць удзельнікаў пратэсту) на вопратцы.





Анатоль Грышкевіч, выкладчык Віцебскага дзяржаўнага каледжу культуры і мастацтваў, далучыўся да страйку з патрабаваннем адстаўкі Лукашэнкі.

# 3. РЭПРЭСІІ ЗА СІМВОЛІКУ



**Больш за дзесяць выпадкаў адміністратыўнай адказнасці за бела-чырвона-белую сімволіку зафіксавана ў розных гарадах Беларусі, у тым ліку за балонікі, сцяг Японіі, жалюзі на вокнах, тры палоскі на штанах. Верагодна, выпадкаў болей, але не ўсе яны трапляюць у медыя, таму не ўсе магчыма адсачыць.**



**У цэнтры Мінска ў канцы жніўня з’явілася такое графіці аўтарства двух беларускіх мастакоў.**







**У сярэдзіне студзеня камунальныя службы знішчылі гэты і іншыя малюнкі на сцяне.**



# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ



**Моцная песня «Не чапай» і відэа да яе праекта Koob Dele, прысвечаныя ўсім загінулым падчас пратэстаў у Беларусі ў 2020 годзе.**

**Новыя творы мастачак і мастакоў, натхнёныя бягучымі падзеямі ў Беларусі.**




**aftahov**



**«Стабільнасць», Ліля Квацабая**



**«Снежны марш», Вольга Якубоўская**

**Беларускі фонд культурнай салідарнасці**
**распачаў анлайн-фэст Артысты Перамогі**
**ў падтрымку беларускіх культурных дзеячаў**
**канцэртам гурта TorBand, чыя песня**
**«Мы не народец!»**
**гучала на кожным нядзельным маршы.**




**Дзеці жыхароў з «плошчы Пераменаў»**
**зрабілі такія малюнкі ў падтрымку Ігара Лосіка,**
**які другі месяц трымае галадоўку.**

















# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**Андрэй Курэйчык,** драматург і рэжысёр,
сябар Каардынацыйнай рады.
*«Государство погружает страну в средневековое мракобесие, в бурлеск продажной бездарной попсы. Вместо настоящего искусства, свободы творчества и самовыражения, продолжается уничтожение культурного кода беларусов. Но это у них не получится».*





фота svaboda.org

**Андрэй Янушкевіч,** выдавец.
*«Падзеі апошняга паўгодздзя паказалі, што насамрэч у беларускай кнігі вялікі патэнцыял».*



**Алег Трусаў,** экс-дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі.
*«Зараз пачалося тое, што было ў гісторыі і раней. У гады акупацыі, калі чалавек вывешваў чырвоны сцяг, фашысты маглі забіць гэтага чалавека, бо лічылі яго партызанам. Зараз бел-чырвона-белую сімволіку быццам і не забараняюць, але яе выкарыстанне прыраўноўваюць да парушэння закона».*



**Мікола Дзядок** – актывіст анархісцкага руху, палітвязень, аўтар кнігі «Фарбы паралельнага свету», за якую атрымаў прэмію Беларускага ПЭН-Цэнтра імя Францішка Аляхновіча ў 2017 годзе за найлепшы твор, напісаны ў няволі, арыштаваны з 11 лістапада па ч. 1 Арт. 342 Крымінальнага кодэкса РБ (арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак), піша ў лісце:
*«У чарговы раз пераконваюся, што ўсё невыпадкова і, галоўнае, усё не дарма. Нас спрабуюць пераканаць у тым, што сістэма ўсё роўна перамоле ўсіх, хто выступіў супраць, і што нас ніхто не падтрымлівае. Менавіта для гэтага патрэбная турма – для ізаляцыі, для таго, каб песімістычныя думкі пераважылі Веру, каб патушыць любы аптымізм. Але ў мяне ён не згасае і, думаю, не згасне».*

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



Часопіс PEN/Opp Шведскага ПЭНа працягвае публікацыі, прысвечаныя Беларусі. У новым выпуску – верш Вальжыны Морт з уступным словам ад Інгі-Ліны Ліндквіст.




Паэтычны «Фестываль надзеі», які праводзіць платформа Versopolis, 21 студзеня распачаўся з круглага стала, прысвечанага палітычнай і сацыяльнай сітуацыі ў Беларусі. Сярод удзельнікаў: беларускія паэткі Вальжына Морт і Юлія Цімафеева, а таксама грамадская актывістка і прафесарка Вольга Шпарага.



Прэзентаваны супольны арт-праект пра мастацтва і беларускія падзеі - Echoes. Voices from Belarus. Гэта кароткія відэа, створаныя беларускімі перформерамі, мастакамі і драматургамі, да іх далучыліся сучасныя еўрапейскія кампазітары.




Саюз нямецкамоўных перакладчыкаў літаратурных і навуковых твораў выказвае салідарнасць з Беларуссю, піша пра арышт перакладчыцы Вольгі Калацкай і пераслед незалежных кнігавыдаўцоў.




Беларускі
ПЭН
Цэнтр



pen-centre.by



pen-centre.by/en

 info@pen-centre.by

 PENBelarus

 pencentre

 pen_belarus

 pencentre

 pencentre_by

 PEN Belarus




 belcultfond@gmail.com

 by_culture

 BYCULTUREFUND

 bcsfbel

 by_culture

 #BY_culture